BULK RATE
US POSTAGE
PAID
Grand Rapids, MI
Permit No. 1141



# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 1(49) Студзень 1998 January Год выд. 6.

## Досыць нам, беларусам, жыць пад чужую дыктоўку

У артыкуле В.Сіманскага "Чытаючы Язэпа Лёсіка" ("НВ" ад 8 жніўня 1997 г.) падымаецца актуальнейшае пытанне — аб татальнай асіміляцыі беларусаў, якая, дарэчы, праводзіцца не якімі-небудзь акупантамі (польскімі, нямецкімі, рускімі ці іншымі, якіх хапае ў гісторыі нашай), а сённяшнімі ўладамі Беларусі.

Працэс русіфікацыі нашага народа прыняў памеры, не дапушчальныя нават партнаменклатурай пры Мазураве і Машэраве.

Нас, як і ўкраінцаў, рускія паважаюць і лічаць братамі тады, калі мы пакорна асімілюемся і размаўляем на іхняй, а не на роднай мове; калі мы прымаем Рускую праваслаўную царкву, а не іншую ці, не дай Бог, нацыянальную веру — беларускую. Сваіх "братоў" Масква спрадвеку бачыла і хоча бачыць толькі рускамоўнымі, падданымі сваёй імперыі.

Калі рускі размаўляе на сваёй мове — гэта нармальна, ён не нацыяналіст, а калі беларус — гэта нонсенс і нацыяналізм, адкрытая варожасць да Расіі! Атрымліваецца, рускім можна размаўляць на роднай мове, беларусам — не! Рускім можна асіміляваць беларусаў, беларусам іх — не! Толькі паглядзіце, як рускія разумеюць нацыянальную справядлівасць: у Расіі шмат карэнных народаў, а мова дзяржаўная — адна; у Беларусі адзін карэнны народ — беларусы, а дзяржаўных моў павінна быць дзве.

Адсюль вынікае, што пад маскай "воссоединения" і інтэграцыі з Расіяй схавана труна для беларускай мовы і дзяржаўнасці — русіфікацыя, якая заўсёды выконвала ролю духоўнага авангарду вялікарускага іга, а сёння вісіць смяротнай пятлёй над беларусамі.

Сапраўды, лёс нацый і дзяржаў непрадказальны. Некалькі год таму немагчыма было нават уявіць, што губернія-Беларусь без вайны з Расіяй стане незалежнай краінай. А яшчэ, аднак, цяжэй было прадбачыць, што ў гэтай краіне ўсё будзе чужамоўным — і першы прэзідэнт, і ўрад, і армія, і ВНУ, і міліцыя, і суды... Я хацэў бы паглядзець на паводзіны рускіх, калі б у Расіі адбывалася такое. І я малю Бога, каб гэта здарылася, каб Расія хаця б на адзін-два вякі "воссоединилась" з "брацкім" Кітаем і руская адчулі, што такое асіміляцыя і дзяржаўнае руска-кітайскае двухмоўе, што такое не сустрэць на абсягах Расіі ні адной пішучай машынкі з рускімі літарамі і ўключаць толькі чужамоўныя тэле- і радыёканалы, дзень і ноч слухаць чужую мову, чужыя песні! Калі ёсць Вышэйшая справядлівасць у Сусвеце — гэта будзе. Найвялікшае зло — асіміляцыю народаў — Бог павінен пакараць. Таму наша барацьба за нацыянальнае і дзяржаўнае адраджэнне, супраць русіфікацыі і апалячвання — справа божая, справядлівая і высакародная!

Распрацаваны і паўсюдна мусіруецца лозунг-тэорыя "Мы единый славянский народ!". Вядома, рускамоўны і кіруемы не старажытнымі Кіевам ці Мінскам, а маскоўскімі князямі. А хто кіруе, той і нажываецца: пагляздзіце, як багацеюць у Маскве на нікелі і алмазах ненцаў і якутаў! Каб жа былі апошнія незалежнымі — купаліся б у доларах, як бедуіны Кувейта ці Арабскіх Эміратаў! А так асімілююцца і выміраюць у страшэннай галечы. Вось вам дружба народаў і нацыянальная справядлівасць!

Гэта добра зразумелі ўкраінцы, прыбалтыйскія, каўказскія і іншыя свабодалюбівыя народы. Нам жа, беларусам, яшчэ далёка да такога ўсведамлення нашай годнасці і выключнай непаўторнасці, мужнасці і прыгажосці. Далёка таму, што нават апазіцыйная "Свабода" і дэмакратычная "Народная воля" ўносяць сваю лепту ў русіфікацыю нашага народа, усё больш становячыся рускамоўнымі. Як быццам толькі ў гэтым выпадку іх будуць чытаць рускія. А прачытаўшы, зразумеюць нас, беларусаў, і стануць паважаць, размаўляць на нашай мове, падтрымліваць божае права нашай нацыі на дзяржаўнасць і вечнае існаванне... Якая памяркоўнасць!

Галоўнымі тэмамі і клопатам нацыянальных СМІ, усяго беларускага патрыятычнага руху павінны стаць праблемы нацыянальна-духоўнага яднання беларусаў, і перш за ўсё працоўных калектываў — найбольш арганізаванай і актыўнай, мудрай і стваральнай сілы нашага грамадства, нашага народа! Толькі арганічны сінтэз сацыяльных, духоўных і нацыянальных інтарэсаў усяго народа, арганізацыйна афармлены, напрыклад, у новую ўсенародную партыю — Беларускі нацыянальны саюз (БНС), зможа разбудзіць беларусаў і аб'яднаць іх! Гэта значыць, на дадзеным этапе гістарычнага развіцця нашай нацыі і дзяржавы руль нацыянальна-вызваленчага руху трэба крута павярнуць улева, да інтарэсаў рабочых і калгаснікаў, інжынераў і настаўнікаў, студэнтаў і вучоных, беспрацоўных і пенсіянераў.

Нам трэба аб'яднацца на нацыянальна-патрыятычнай аснове і запісаць у Канстытуцыі Беларусі вялікімі (ці, як кажуць, залатымі) літарамі:

"1. Беларуская мова з'яўляецца адзінай дзяржаўнай моваю на Беларусі і ляжыць у аснове функцыяніравання ўсіх прадпрыемстваў, арміі і судоў, школ і ВНУ, усіх палітычных, рэлігійных і іншых дзяржаўных і недзяржаўных арганізацый і ўстаноў.

2. Кіраўнікамі Беларусі могуць быць толькі беларусы, якія свабодна валодаюць роднай моваю і паўсюдна карыстаюцца ёю ў сваёй працы.

3. Усякія дзеянні па асіміляцыі беларускага народа і знішчэнні ці абмежаванні беларускай дзяржаўнасці лічацца найвялікшым злачынствам супраць беларусаў і жорстка караюцца з далейшым пазбаўленнем грамадзянства Беларусі.

4. Палітычныя партыі і рухі, апазіцыйныя ўладзе, маюць права доступу ва ўсе дзяржаўныя СМІ".

Трэба зрабіць усё, каб Беларусь сапраўды стала Беларуссю. Тут, на сваёй зямлі, мы павінны быць гаспадарамі. Досыць жыць пад чужую дыктоўку.

**Пётр КАСЦЮКОВІЧ,**
**кандыдат геолага-мінералагічных навук, дацэнт.**

«Народная Воля»



Зімоваю парою на Беларусі...

Няхай 1998-ы год будзе для Ўсіх нашых чытачоў шчасьлівым, вясёлым і багатым!!! Для Беларусі жадаем: Свабоды, Адвагі і зьнішчэньня дыктатуры!



*Сцяпан ЛУЧЫЦКІ*

## Гэй, беларусы, прачніцеся!

Гэй, Беларусы, прачніцеся, дружы!
Голас Радзімы вас кліча к сабе.
Добрую долю хай кожны дабудзе,
Хопіць вам жыць у суме і журбе.

Хопіць вам спаць на абочыне часу —
Сьвет зацікаўлена крочыць у век,
Хопіць ганьбіць сябе, змрочыць ад часу,
Ты, Беларус, Беларус — чалавек!

Імя тваё пачынаецца з літары,
Ды ні з малой, а з вялікай ужо.
Ты падымі працавітыя рукі
Ды усьміхніся шчырай душой.

Выйдзі насустрач новаму шляху,
Дзьверы ў сьвет сам адчыні,
Хай твае вочы ня плачуць ад страху,
Хай твае думкі ляцяць ў вышыні!



**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ПАЛЯКІ ХОЧУЦЬ ДАПАМАГЧЫ БЕЛАРУСКАЙ МЕНШАСЬЦІ Ў ПОЛЬШЧЫ

**Сеймавая Камісія нацыянальных і этнічных меншасцей** запрапанавала камісіям культуры і адукацыі выдзяліць 1 млн. зл. на дзейнасць беларускай меншасці, а таксама 2,5 млн. зл. на завяршэнне пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы і штаты для гэтай установы.

*ПОГЛЯД*

## ЗША спынілі праект па знішчэнню ракетных пляцовак у Беларусі

"ЗВЯЗДА"

**Амерыканскі бок разарваў кантракт з кампаніяй, якая павінна была прыступіць да знішчэння бетонных стартавых пляцовак, што засталіся ў нас ад выведзеных у Расію балістычных ракет СС-25. І гэтая кампанія пачала ўжо вываз свайго абсталявання за межы Беларусі. Аб гэтым паведаміў памочнік міністра абароны ЗША па пытаннях стратэгіі і зніжэння пагрозы Эдвард Уорнер, які пабываў у Мінску 14 снежня ў саставе ўрадавай дэлегацыі Злучаных Штатаў. Ён растлумачыў журналістам, што ўрад яго краіны некалькі гадоў супрацоўнічаў з Беларуссю ў мэтах знішчэння рэштак ядзернай спадчыны СССР на тэрыторыі Беларусі, на гэтыя мэты была накіравана фінансавая дапамога ЗША.**

— Аднак, нягледзячы на шматлікія спробы, мы не змаглі дабіцца ад кіраўніцтва Беларусі доступу на гэтыя стартавыя пляцоўкі і пачаць работы. Так ці іначай ліквідаваць гэтыя пускавыя ўстаноўкі Беларусі трэба будзе ў адпаведнасці з умовамі дагавора СНУ-2, але цяпер гэта будзе ажыццяўляцца без фінансавай падтрымкі з боку Злучаных Штатаў,— падкрэсліў Э. Уорнер.

Як вядома, у Беларусі існавала 81 такая пускавая пляцоўка, якую неабходна ліквідаваць згодна з міжнароднымі дамоўленасцямі. Расійскімі ваеннымі адна з іх была года паўтара таму знішчана шляхам падрыву. У выніку гэтага горы жалезабетону ўзняліся ў неба, а навакольнае асяроддзе засмеціў бетонны друз. Карціна на месцы былой пляцоўкі засталася вельмі ўжо непрывабная. Прэзідэнт Лукашэнка асабіста вельмі адмоўна ацаніў такую вось ліквідацыю пляцовак. Магчыма, гэты вопыт і адбіўся на негатыўных адносінах да ўсяго працэсу ліквідацыі ракетных пляцовак.

Між тым, як паведаміў пасол ЗША ў Беларусі Дэніэл Спекхард, тэхналогія, якую прапаноўвалі ЗША для знішчэння гэтых пляцовак была зусім іншай:

— Амерыканская кампанія прапанавала вельмі сучасны спосаб ліквідацыі стартавых пляцовак. Меркавалася пастаўка даволі буйнога па габарытах абсталявання, якое спецыяльнымі молатамі разбівае бетон на дробныя кавалкі. Пасля гэтага бетон падбіраўся б іншымі машынамі і вывозіўся, а само месца дэманціраванай пляцоўкі павінна было пакрывацца глебай і рэкультывавацца. Наш метад нічога агульнага не меў з падрываннем пляцовак.

На гэтыя мэты, як паведаміў амерыканскі пасол, магло быць выкарыстана 2 мільёны долараў ЗША. Праўда, з іх 600 тысяч было ўжо выдаткавана фактычна ні на што, гэтыя грошы пераведзены кампаніі-падрадчыку, якая спачатку завезла, а цяпер вывозіць з Беларусі сваё абсталяванне. «Мы не можам сабе дазволіць так выкарыстоўваць грошы падаткаплацельшчыкаў, марнаваць час і сродкі, таму і было прынята рашэнне аб згортванні гэтай праграмы»,— падкрэсліў Д. Спекхард.

Чаму ж ЗША прапаноўвалі такую дапамогу Беларусі? Тут былі рознага роду меркаванні. У пэўных колаў ёсць недавер да шчырасці амерыканскага ўрада, які як быццам бы хацеў такім чынам дабіцца немагчымасці вяртання балістычных ракет на гэтыя пускавыя пляцоўкі. Д. Спекхард лічыць такую трактоўку памылковай, бо гэтыя стартавыя пляцоўкі ўжо не маюць стратэгічнага значэння ў сувязі са зьмяненнямі ў тэхналогіі вытворчасці і выкарыстання ядзерных узбраенняў. «ЗША не разглядаюць факт існавання ў Беларусі гэтых пускавых пляцовак як пагрозу»,— падкрэсліў Д. Спекхард. Зразумела, што незалежна ад таго, будуць знішчаны гэтыя пляцоўкі ці яны ў нас застануцца, тэхнічна вялікіх праблем даставіць ракеты ў Беларусь няма, бо частка існуючых ракетных установак мабільная («Таполі», дарэчы, перавозяцца на колавых цягачах мінскай жа вытворчасці). Беларусь жа аб'ектыўна зацікаўленая ў тым, каб такое пытанне ні ў кога не паўставала і каб у нашых партнёраў не ўзнікала нават лёгкіх падазрэнняў наконт магчымага вяртання Беларусі ядзернага статусу.

— ЗША прапаноўвалі сваю фінансавую падтрымку гэтага праекта толькі дзеля таго, каб дапамагчы Беларусі выканаць узятыя ёю абавязацельствы ў адпаведнасці з міжнароднымі дагаворамі. Мы задаволеныя тым, што беларускія ўлады па-ранейшаму заяўляюць, што яны маюць намер выканаць гэтыя абавязацельствы, нават без амерыканскай дапамогі. Такі варыянт нас таксама задавальняе. Гэтае пытанне не трэба разглядаць як праблему, што ўскладняе нашы двухбаковыя адносіны,— дыпламатычна падкрэсліў Д. Спекхард у размове з журналістамі. «Мне было толькі заяўлена, што ў цяперашні час беларускае кіраўніцтва не лічыць магчымым працягваць ажыццяўленне гэтай праграмы».

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# President in waiting

As head of the government-in-exile of Belarus, a Hull woman shines light on a troubled land. **Mike Trickey** reports.

Life has never been easy for the anonymous chunk of Central Europe now called Belarus.

A crossroads between Asia and Europe, between Central Asia and marauding northerners, the country has known little but invasion since the pioneers of ancient Rus first settled its fertile land 1,000 years ago.

The cruellest century in all that time has been the 20th.

Invaded by the Germans in the First World War, torn apart by the Russian Revolution, "White Russia" was rebuilt just in time to be destroyed again by the Second World War. Then came the 1989 Chernobyl nuclear disaster, which poisoned 25 per cent of the country's territory and turned its people into a field laboratory for leukemia and radiation sickness research.

And to top it all came the 1994 election of President Alexandre Lukashenko, an open admirer of Hitler and KGB founder Felix Dzerzhinsky — a statue of whom still stands proudly in the capital's main downtown square — and an avowed enemy of the economic and political reforms that are slowly taking hold in the former Soviet states all around him. Even the name of the country is contentious; Russians say "Belarussian," exiles say "Belarusan."

Into this darkness, described by Western diplomats as the worst government in Europe, shines a beam of light, radiating from, of all places, Hull. Joanna Survilla, a refugee from her native Belarus during the Second World War, is the elected president of the Belarussian government-in-exile.

"Belarus has become such a worry to me," she says, sitting in her living room among a clutter of clothes and care packages collected for impoverished pensioners in her homeland.

"It has become 100-per-cent Stalinist. It's just terrible."

Born in 1936 at the height of the Stalin terror, Ms. Survilla knew little but war and repression in her youth. She watched as a three-year-old when the MKVD — predecessors to the KGB — imprisoned her father because he refused to inform on his colleagues. He was sentenced to five years in a Siberian labour camp and escaped when the Soviet officials fled the advancing German army four days before the prisoners were to be shipped out.

The family lived under Nazi occupation until 1944 when they fled the returning Red Army and began a three-year flight to the West that took the life of her baby sister and ended in a refugee camp in Denmark.

Eventually resettled in France, Ms. Survilla painted and studied languages — she speaks Belarusan, French, English, German and Spanish and reads Danish — and earned a degree at the prestigious Sorbonne in Paris. But she never forgot her homeland, a place few others have heard of.

"It's a very hard thing to be Belarusan," she sighs.

"You find yourself explaining over and over again to people what Belarus is because the Russians have made every effort to convince people there is no such thing. You're Russian or Polish, but not Belarusan because they don't exist."

The Belarusan government-in-exile, officially the Rada (legislature) of the Belarusan Democratic Republic, has been the light in the wilderness for a dwindling number of would-be democratic Belarusans. An organization with about 80 members around the world, the Rada traces its roots to the 1918 election held in the newly independent Belarus that flickered briefly in the interregnum between Imperial Russia and the Soviet Union.

"The Rada was formed before the brainwashing and the terror began.," says Ms. Survilla.

"We are more legitimate than the current government."

She was elected to her six-year-term as president and head of an 18-member presidium at the Rada's biennial conference this summer in New Jersey — the sixth president-in-exile and the first woman. She has been a member of the Rada for 20 years and worked for a free, democratic Belarus since the 1960s. After marrying another Belarusan in 1959, she moved to Madrid where she worked for a Belarusan-language radio program. She moved to Canada, settling in the capital region in 1969 and worked full time for the federal translation bureau and for the Belarusan cause in her free time.

Ms. Survilla was the founder of the Canadian Relief Fund for Chernobyl Victims in Belarus, but gave up her role upon being elected president of the Rada for fear of political retaliation against the organization by the current regime in Minsk.

Mr. Lukashenko dissolved the first post-Soviet Belarusan legislature last year and appointed a new body loyal to him.



**'We are more legitimate than the current government.'**

Joanna Survilla
Rada president

He has closed independent newspapers and brought all other media under government control. The pre-revolution Belarusan flag that flew briefly in the post-Soviet era has been replaced by the Soviet-era emblem and Belarusan culture and language subsumed — by order of the Soviet nostalgist Mr. Lukashenko — by Russian.

Ms. Survilla says Mr. Lukashenko's ongoing repression and back-sliding toward totalitarianism is why her organization remains the only Soviet-era government-in-exile.

All others, including that from tumultuous Ukraine, have handed their mandates back to the governments of the newly independent countries.

"We never believed Belarus had become a free country," she says. "Even after the Soviet Union collapsed, Belarus maintained a Communist Supreme Soviet and then came Mr. Lukashenko."

She believes the country would never have reached today's repressive situation if Western governments, including Canada, had paid as much attention to Belarus as they did to Russia and Ukraine.

Interest in Belarus waned in Western capitals after the country gave up the nuclear arsenal it inherited from the Soviet Union. Canada still harbours hopes of selling a Candu nuclear reactor to the country which renounced nuclear power after the Chernobyl accident but has reversed that stance under Mr. Lukashenko.

Ms. Survilla, who keeps alive memories of a Belarus that no longer exists, says the Rada harbours no illusions about returning to power but is keeping the candle burning for those still trapped inside who dream of independence and democracy.

"We try to get the message out to the rest of the world that Mr. Lukashenko is not Belarus and that the Belarusan people deserve their help. ... Our hope is the youth of Belarus, the young people who have no memory of the old ways and who demand to live normal human lives.

"Our job is to support them so they can lead a free, democratic Belarus in the future."

Mike Trickey. Southam News."President in waiting" Ottawa Citizen. Thursday Dec. 11, 1997. page A12. Reprinted with permission.



# У гэтай справе нельга маўчаць



*Прафесар Аляксандр Баршчэўскі.*

**Шаноўныя дэлегаты XIII З'езду Беларускага Грамадска-Культурнага Таварыства!**

Пачынаючы ад II З'езду і канчаючы XII З'ездам быў я ўдзельнікам усіх адзінаццаці З'ездаў нашай Арганізацыі. Не прыехаў я на XIII З'езд і зрабіў гэта цалкам свядома. Узнікае натуральнае пытанне — чаму? Адказваю. Таму, што не адпавядае мне палітычны напрамак сённяшняга Кіраўніцтва Таварыства, не адпавядае яго фінансавая палітыка і не адпавядае стыль кіравання Арганізацыяй.

Адносна першага пытання, высняю, што, па-мойму, Кіраўніцтва Беларускага Таварыства не павінна звязвацца ў Рэспубліцы Беларусь з тымі сіламі, якія, пагарджаючы ідэяй незалежнасці Беларускай Дзяржавы, давялі да ліквідацыі беларускага нацыянальнага сцяга і герба, да ліквідацыі беларускай мовы як адзінай мовы дзяржаўнай, давялі да драматычнага абмежавання абсягу навучання роднай мовы ў школах, выклікалі лавінную русіфікацыю Беларусі, тэмпы якой не ўступаюць тэмпам сталінскім.

Тэзіс Кіраўніцтва Таварыства, што яно не будзе ўмешвацца ва ўнутраныя беларускія справы, аб'ектыўна з'яўляецца формай падтрымкі для такіх злачынных дзеянняў, як адбіранне ад настаўнікаў Дому Настаўніка, ад пісьменнікаў Дому Літаратара, ад Беларускага Ліцэя школьнага будынку, ліквідацыі газеты „Свабода" і гэтак далей. Па-мойму, Беларускае Грамадска-Культурнае Таварыства, так як гэта робіць увесь дэмакратычны свет, павінна акцэнтаваць свае непрыхільныя адносіны да таго ўсяго, што губіць беларусаў як нацыю.

Што датычыцца фінансавай палітыкі, дык не магу ні ў якім выпадку падтрымліваць затойвання датацыяў для Таварыства з боку дзяржавы і спосабаў расходвання гэтых датацыяў у дзейнасці нашай Арганізацыі. Да апошніх месяцаў не ўдалося мне высветліць, якія сумы грошай атрымлівалі за сваю дзейнасць у Таварыстве яго Старшыня і Сакратар.

Аб выразным засакрэчванні фінансавых пытанняў у Таварыстве можа сведчыць, між іншым, такі выпадак. Чатыры гады таму я выйшаў з ініцыятывай міжнароднай навуковай канферэнцыі „Шлях да ўзаемнасці", прысвечанай польска-беларускім літаратурным, моўным, фальклорным і культурным суаднсінам. Міністэрства Культуры на працягу трох гадоў давала датацыю на гэтую канферэнцыю. Я — яе ініцыятар і арганізатар — ні разу не быў паінфармаваны аб размерах датацыі, аб расходах пры паасобных канферэнцыях і аб сумах, якія засталіся невыдаткаваныя. Калі ў ліпені 1997 года сказаў я Старшыні і Сакратару Галоўнага Праўлення Таварыства, што грошы, якія засталіся ад канферэнцыяў, павінны быць прызначаныя на выданне пасляканферэнцыйных матэрыялаў, Сакратар Галоўнага Праўлення адказала: „Што там выдаваць? Дакладчыкі пакінулі два даклады па дзесяць старонак". Мая інфармацыя аб тым, што маю на руках чатырыста старонак пасляканферэнцыйных матэрыялаў, якія трэба выдаць, да сёння засталася без адказу. Тым часам, у Выдавецтве ENERGEA ляжыць наш том „ACTA POLONO-ALBARUTHENICA", які не можа выйсці з прычыны недахопу сродкаў.

Я ўважаю, што ўсякае засакрэчванне фінансавага стану Арганізацыі вядзе да рознага тыпу вывіхаў і анамаліяў, якіх я асабіста не магу фірмаваць і падтрымліваць.

Што датычыцца стылю кіравання Таварыствам, дык засталася ў ім толькі дэкарацыйная фасаднасць. Пасяджэнні Прэзідыума праводзіліся вельмі-вельмі рэдка і запаўнялі іх галоўным чынам доўгія маналогі Старшыні. Я ўжо не памятаю, калі апошні раз прысутнічаў на пасяджэнні Прэзідыума бухгалтар, які ў мінулым быў пастаянным удзельнікам сходаў і заўсёды інфармаваў аб даходах і расходах Таварыства.

Кіраўніцтва Арганізацыі поўнасцю страціла кантакт з Актывам Аддзелаў Таварыства, не гаворачы ўжо аб Гуртках. Для прыкладу, Старшыня Аддзела ў Варшаве Д-р Мікалай Алексюк заявіў, што на працягу некалькіх апошніх гадоў Старшыня Галоўнага Праўлення БГКТ, хаця і неаднойчы бываў у Варшаве, ніколі не наведаў Варшаўскага Аддзела. Прывяду яшчэ адзін прыклад. У 1996 годзе, калі Таварыства святкавала сваё 40-годдзе, ні адзін з былых Старшыняў і Сакратароў, апрача мяне, не быў дапушчаны да голасу і запрошаны ў Прэзідыум. А ў часе Фестывалю Песні, які адбываўся менавіта ў саракавую гадавіну Таварыства, Старшыня Галоўнага Праўлення амаль што з каленяў вітаў высокапастаўленых урадавых гасцей, але нават адным словам не прывітаў ветэранаў беларускага руху ў Польшчы і ні адным словам не сказаў сабраным аб вялікім юбілеі Таварыства.

Шаноўныя Дэлегаты, усё гэта давяло мяне да цвёрдага рашэння не ехаць на З'езд і не прымаць у ім удзелу. А гэта таму, каб ніхто не сказаў, што прагну сарваць З'езд або давесці да расколу ў БГКТ.

З гэтых прычынаў у пісьмовай форме заяўляю, што адракаюся ад пасады Ганаровага Старшыні БГКТ, рэзігную з членства ў Прэзідыуме БГКТ і з членства ў Галоўным Праўленні. Застаюся шэраговым членам Беларускага Грамадска-Культурнага Таварыства, хіба што Кіраўніцтва мяне з гэтай Арганізацыі выключыць.

Нікога, Шаноўныя Дэлегаты, за сабой не клічу, не заахвочваю Вас пакідаць З'езд або не ўваходзіць у яго ўлады. Няхай кожны з Вас кіруецца ўласным розумам і сэрцам.

Прыціскаю да грудзей усіх тых Дзеячаў Таварыства, з якімі на працягу дзесяткаў гадоў дзяліў я долю і нядолю ў нашай Арганізацыі. Бывайце, Сябры! Я ніколі не стану Вашым ворагам. Веру, што раней ці пазней Таварыства вернецца на нацыянальны грунт і будзе ўдзельнічаць у будове аўтарытэту Незалежнай Беларускай Дзяржавы — сястры Польшчы і іншых вольных дзяржаў і народаў у Еўропе і ў цэлым свеце.

**Ваш Аляксандр БАРШЧЭЎСКІ**

"НІВА" **(Алесь БАРСКІ)**

*Адкрыты ліст з эміграцыі да старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання С.Г.Шарэцкага*

# Сямён Георгіевіч, Вы сапраўды лічыце бел-чырвона-белы сцяг "фашысцкім"?

*Народная Воля*

Шаноўны Сямён Георгіевіч!

Тэма гэтага ліста вымагае адкрытай размовы, і падаецца натуральным выкарыстаць старонкі "Народнай волі" — газеты, дзе гучыць голас прыхільнікаў розных партыйных падыходаў і ў якой Вы, як і ў шэрагу іншых, заклікалі да супрацьстаяння дыктатуры і вяртання да законнасці.

Хоць і са спазненнем, але да мяне трапіла копія Вашага звароту да суайчыннікаў, прымеркаванага да Дня прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. Пад Вашымі словамі пра неабходнасць паважаць нацыянальную гісторыю падпішацца кожны, хто незалежна ад нацыянальнага паходжання лічыць сябе грамадзянінам Беларусі.

Так сталася, што ў той жа дзень знаёмы вашынгтонскі палітык перадаў мне ліст, які пасол Беларусі ў ЗША сп.В.Цапкала разаслаў амерыканскім сенатарам, кангрэсменам, грамадскім дзеячам. У ім сцвярджаецца, што Беларусь ідзе шляхам дэмакратычных і рынкавых рэформ, што канстытуцыйная законнасць з'яўляецца асновай палітыкі прэзідэнта Лукашэнкі, а ў галіне выканання правоў чалавека сярод астатніх дзяржаў... Беларусь ў першых шэрагах (менавіта так і заяўлена!). На шчасце, сваё меркаванне пра становішча ў нашай краіне амерыканскія палітыкі фарміруюць не толькі з інфармацыі прызначанага Лукашэнкам пасла.

Але што я заўважыў: і першы, і другі лісты аб'ядноўваў агульны малюнак, які ў абодвух выпадках быў змешчаны над тэкстам, — "лукашэнкаўскі" герб.

Сямён Георгіевіч, адкажыце шчыра: Вы сапраўды лічыце бел-чырвона-белы сцяг "фашысцкім", а "Пагоню" — "паліцэйскім" сімвалам? Перакананы, што не: у тым жа звароце Вы нагадваеце Вялікае княства Літоўскае, якое было наймагутнейшай краінай у Еўропе, Статут якога быў напісаны па-беларуску і ўпрыгожаны "Пагоняй". Вы гаворыце і пра абвяшчэнне Радай БНР 25 сакавіка 1918 года незалежнасці нашай дзяржавы, што, цытую Вашыя словы, "зрабіла ўплыў на развіццё нацыянальнай свядомасці". Дзяржаўнымі сімваламі Беларускай Народнай Рэспублікі былі, як вядома, бел-чырвона-белы сцяг і "Пагоня".

Такім чынам, Вас нельга папракнуць у няведанні найбольш прыкметных старонак гісторыі Беларусі. Але чаму ж тады Вы не выкарыстоўваеце нацыянальныя сімвалы?

Магчыма, самым істотным палітычным вынікам дзейнасці дэмакратычных дэпутатаў у Вярхоўным Савеце 12-га склікання было абвяшчэнне незалежнасці Беларусі і наданне нацыянальным сімвалам дзяржаўнага статусу. Ваш Вярхоўны Савет, кіруючыся толькі яму аднаму вядомай палітычнай выгадай (а можа, проста імкнучыся дагадзіць Лукашэнку), скасаваў тыя сімвалы ў першыя ж месяцы свайго існавання. Чым вярнулася Вам такая "выгода"?

А можа, Вярхоўны Савет прынцыпова не прымае бел-чырвона-белы сцяг ды "Пагоню"? У такім разе ўзнікае пытанне: вось цяпер пры парламенце створаны "ценявы кабінет", у якім, напэўна, ёсць пасада міністра ўнутраных спраў; у выпадку, калі "кабінет" пасля падзення рэжыму выйдзе з "ценю", гэты міністр аддасць загад міліцыі гэтак жа жорстка збіваць людзей за гістарычна-нацыянальныя сцягі і за мову, як гэта робіцца сёння?

Сямён Георгіевіч, скажыце шчыра: каб не масавыя акцыі на мінскіх вуліцах — сусвет лічыў бы, што легітымная частка парламенту не мае ніякай падтрымкі ў насельніцтва, і стаўленне да ўсіх вас было б зусім іншым. Але людзі — пераважна моладзь — выходзяць на мітынгі пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Магчыма, калі б яны неслі не гэтыя ненавісныя рэжыму сімвалы, а тыя, якімі Вы аздабляеце дакументы легітымнага парламенту, — то не збівалі б іх дубінкамі, не кідалі б у міліцэйскія "варанкі", не прысуджалі б да зняволенняў ды штрафаў.

Нехта з Вашых паплечнікаў запярэчыць: "А якая розніца? Мы ж — супраць Лукашэнкі! І каб аб'яднаць паболей народу, у тым ліку і камуністаў (а БНФ нас усё роўна падтрымае), — мы выкарыстоўваем гэтую сімволіку. Вам што важней: гэтыя "цацкі" ці перамога над рэжымам? Вось пераможам Лукашэнку, тады ўсё вернем".

Тое ж самае чулася і на пачатку 1994 года ад каманды кандыдата ў прэзідэнты Лукашэнкі: "Вам якая розніца — мы ж таксама супраць Кебіча! Лукашэнка толькі для электарату кажа пра двухмоўе і пра аднаўленне СССР, а як прыйдзе да ўлады — будзе і незалежнасць, і нацыянальная палітыка".

Пазіцыя "сёння палітычна выгадна адно, а заўтра іншае" — шкодная, асабліва калі прадметам гульні робяцца нацыянальныя каштоўнасці, роўна як і прынцыпы дэмакратыі, правоў чалавека, свабоды слова. Бо тыя, хто грэбаваў імі падчас выбарчай кампаніі, пасля дасягнення ўлады знішчаюць іх ушчэнт.

Вы шукаеце як мага шырэйшай падтрымкі сярод цяперашніх зацятых прыхільнікаў Лукашэнкі? Вы не здабудзеце яе, Сямён Георгіевіч, нават калі абгорнецеся чырвона-зялёным сцягам ды выйдзеце да прэзідэнцкай рэзідэнцыі з партрэтам Лукашэнкі ў адной руцэ і з выявай ягонага герба — у другой.

Вы і тыя Вашыя калегі па парламенце, якія засталіся верныя Канстытуцыі 1994 года, правялі сур'ёзную працу, каб сусветная супольнасць не прызнала вынікаў леташняга рэферэндуму.

Але рэфэрэндум 95-га года быў праведзены з неменшымі парушэннямі, пры гэткай жа схеме фальсіфікацыяў, што і леташні рэферэндум. Прычым той, першы, "плебісцыт" з самага пачатку быў замешаны на крымінале — збіцці дэпутатаў апазіцыі БНФ, якія спрабавалі прадухіліць нацыянальную ганьбу.

Выглядае дзіўным, што, заяўляючы пра нелегітымнасць леташняга рэферэндуму, які пазбавіў вас улады, вы, дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання, маўчыце пра той, першы, рэферэндум. Між тым вынікі яго для нацыі — катастрафічныя. І калі ўжо сёння не зрабіць рашучых крокаў — яны стануць смяротнымі і, магчыма, незваротнымі. Беларуская нацыя знікне. Гэта адназначна, і якраз гэтага, я лічу, мэтанакіравана дамагаецца Лукашэнка і ягонае атачэнне. Прасоўваючы "новыя" сімвалы, яны імкнуліся зганьбіць беларусаў перад усім светам — і зганьбілі. Праглі спыніць працэс нацыянальнага адраджэння — і ў гэтым дасягнулі поспеху. Цяпер яны, як мне здаецца, ушчыльную падышлі да канчатковай мэты — ліквідацыі нацыі. І ў ход ідзе ўжо не толькі прапаганда, але і сіла.

Але ж Вы, Сямён Георгіевіч, Вашыя калегі па легітымным парламенце жадаеце нацыі іншай будучыні? І калі так, то лагічна выглядаюць наступныя дзеянні: на

# „НІВА" Рада вырашыла

З'езд прадстаўнікоў Праграмнай рады тыднёвіка „Ніва" адбыўся ў памяшканні газеты ў нядзелю 14 снежня 1997 года.

Сябры Рады заслухалі справаздачы старшыні Валянціна Сельвесюка і галоўнага рэдактара „Нівы" Яўгена Міравовіча. Я. Мірановіч паведаміў, што апрача выдавання „Нівы" выдадзены былі дзве кніжкі: „Дзённікі" Сакрата Яновіча і „Гісторыя Беларусі" Віктара Ярмалковіча. Праводзіліся таксама Сустрэчы „Зоркі". „Ніва" цяпер не мае ніякай задоўжанасці.

Апрача фінансавага стану „Нівы", Рада дыскутавала праблему адлюстравання газетай важных грамадскіх падзей, такіх як сёлетнія выбары. Большасць тых, хто ўзяў голас, выказваліся за самастойнасць рэдакцыйнага калектыву ў прэзентацыі грамадскіх спраў. Рада рэкамендавала таксама правесці конкурс дзеля падбору новых журналістаў.

У другой частцы нарадаў разглядаліся персанальныя справы. У адстаўку падаліся старшыня Рады В. Сельвясюк (па службовых прычынах — пераязджае ў Парыж) і галоўны рэдактар Я. Мірановіч.

Рада выбрала новае праўленне ў складзе: Яўген Вапа (Беларускі саюз), Пятро Юшчук (БДА), Юрка Шульскі (БАС), Яўген Мірановіч (Беларускае гістарычнае таварыства), Галена Глагоўская (БКТ „Хатка" ў Гданьску), Юрка Каліна (Асацыяцыя беларускіх журналістаў) і Міраслава Лукша (Літаб'яднанне „Белавежа"). У Рэвізійную камісію выбраны былі: Алег Латышонак, Юрка Хмялеўскі, Пятро Крук, Славамір Іванюк і Марко Заброцкі.

Праўленне Праграмнай рады на асобным пасяджэнні сваім старшынёй выбрала Я. Мірановіча, намеснікам старшыні — Я. Вапу і скарбнікам — М. Лукшу.

Па рэкамендацыі рэдакцыйнага калектыву, падтрыманай Радай, галоўным рэдактарам „Нівы" Праўленне назначыла Віталя Лубу.

**Алег ЛАТЫШОНАК**

**Шчыра вітаем новага рэдактара "НІВЫ", — Спадара Віталя Лубу і жадаем яму ўсяго найлепшага ў працы на карысьць Беласточчыны ды беларускае адраджэнскае справы.**

**Др. Яўгену Мірановічу жадаем выдатных посьпехаў і ўдачаў на новай акадэмічнай пасадзе.**

# «Народная Воля» Волат беларускага адраджэння

## Мінула пяць гадоў, як не стала Міхася Ткачова



**Кожная хваля беларускага адраджэння дае сваіх герояў і змагароў. Пасля "нашаніўскага перыяду" і змагарных 20-ых гадоў Беларусь, якая захлынулася ў крыві сталінскіх гулагаў, фашысцкай акупацыі, доўгі час знаходзілася ў дрымотнай багне брэжнеўскага застою. І вось надышлі часы чарговага пад'ёму беларушчыны. З'явіліся свядомыя беларускія пісьменнікі, мастакі, навукоўцы, людзі, якія зноў, як завяшчаў некалі вялікі Купала, хацелі людзьмі звацца. І сярод іх побач з Уладзімірам Караткевічам, Васілём Быкавым, Гаўрылам і Радзімам Гарэцкімі, Янкам Брылём, Зянонам Пазьняком быў і Міхась Ткачоў.**

Яго пуцяводная зорка зазіхацела над славутым мсціслаўскім замчышчам у 1942 годзе. Бацька Міхася, вясковы настаўнік, загінуў на фронце, а маці, таксама настаўніца, гадавала сына разам з другім мужам, былым франтавіком, і двума малодшымі братамі.

Мсціслаўская зямля, якая дала Беларусі Пятра Мсціслаўца, Сцяпана Палубеса, Максіма Гарэцкага, у другой палове XX стагоддзя зноў вылучыла з шэрагаў знакамітых мсціслаўцаў-"недасекаў" чарговага асілка беларускай нацыянальнай ідэі. Малады мсціслаўскі хлопец пасля школы паступіў і скончыў спачатку гістфак БДУ, а потым і аспірантуру Інстытута гісторыі АН БССР. Нягледзячы на застой і абэцэдаршчыну, што апанавалі тады беларускую гістарычную навуку, Міхась Аляксандравіч, працуючы настаўнікам гісторыі ў Жодзіне і кожны дзень шыбуючы туды і назад на бясконцых электрычках, працэрабіў сапраўдны шлях да даляглядаў беларускай гісторыі.

Знайшоўшы дарогу да патрыярха нашай гістарычнай навукі Міколы Улашчыка, які пасля 20 год Калымы мусіў жыць і працаваць у Маскве, Міхась Ткачоў абраў для сябе нялёгкую кар'еру археолага і гісторыка беларускага абарончага дойлідства.

Мабыць, няма на Беларусі ніводнага замка і абарончага храма, дзе б не пабываў з рыдлёўкай гэты высокі, магутнага складу чалавек.

Першым, хто стаў даследаваць матэрыяльную культуру беларусаў XIV—XVIII стагоддзяў, стаў менавіта Міхась Ткачоў. Ён першым зноў назваў Беларусь краінай замкаў і прысвяціў ёй некалькі манаграфій. Пасля кожнага археалагічнага сезону, слякотнай восенню і халоднаю зімою Міхась Ткачоў цэлымі днямі працаваў у маскоўскіх і ленінградскіх архівах і вельмі часта адзінай яго ежай была бутэлька кефіру і батон.

Так з'явіліся на свет спачатку кандыдацкая, а потым і доктарская дысертацыі, дзе М.А.Ткачоў падрабязна асвяціў такія знакамітыя старонкі нашай гісторыі, як удзел беларусаў у войнах з крыжакамі, крымскімі татарамі і маскоўскай дзяржавай. Ён вярнуў нам славутыя постаці гродзенскага старасты Давіда Гарадзенскага, гетманаў Канстанціна Астрожскага і Яна Хадкевіча, выназходніка рэактыўнай артылерыі Казіміра Семяновіча, шмат зрабіў для вяртання беларусам старадаўняй Пагоні і бел-чырвона-белага сцяга.

З 1978 па 1989 год Ткачоў працаваў дацэнтам, а потым і прафесарам Гродзенскага універсітэта. У гэтым старажытным горадзе ён заснаваў гістарычны клуб "Паходня", змагаўся з мясцовай наменклатурай за захаванне архітэктурнай спадчыны.

19 кастрычніка 1988 года Міхась Ткачоў быў разам з тымі лепшымі прадстаўнікамі нашай нацыі, якія ў будынку Мінскага Чырвонага касцёла заснавалі БНФ, і ўвайшоў у склад аргкамітэта па яго стварэнні. Летам 1989 г. на Віленскім з'ездзе БНФ Ткачова абралі намеснікам старшыні сойма БНФ. Амаль адначасова ён бярэ актыўны ўдзел у стварэнні Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны як у Мінску, так і на Гарадзеншчыне.

У 1989 г. Міхася Ткачова запрашаюць у Мінск для працы над Беларускай энцыклапедыяй. Спачатку ён узначаліў аддзел гісторыі, а потым стаў галоўным рэдактарам. Дзякуючы яму, пабачылі святло два першыя тамы "Беларускай гістарычнай энцыклапедыі", "Энцыклапедыя археалогіі і нумізматыкі Беларусі", шматтомны слоўнік "Беларускія пісьменнікі" і іншыя вельмі патрэбныя кнігі, накіраваныя на развіццё самасвядомасці нашага народа.

У 1990 годзе Міхась Ткачоў далучыўся, а потым і ўзначаліў тых людзей, прадстаўнікоў інтэлігенцыі, рабочых, дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР, якія вырашылі адрадзіць на Беларусі дзейнасць першай беларускай партыі, Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады. У сакавіку 1991 года адбыўся першы з'езд БСДГ, на якім М.Ткачоў быў аднагалосна абраны Старшынёй Цэнтральнай Рады. Ужо ў маі партыя была зарэгістравана і актыўна ўключылася ў палітычнае жыццё краіны. Была ўтворана фракцыя БСДГ у Вярхоўным Савеце Беларусі, Грамада стала заснавальнікам шэрагу рэспубліканскіх і рэгіянальных выданняў.

Нямала высілкаў паклаў Міхась Аляксандравіч на стварэнне і дзейнасць Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Ён прыняў чынны ўдзел у сімвалічнай прысязе беларускіх вайскоўцаў сваёй Радзіме на плошчы Незалежнасці 8 верасня 1992 г.

Аднак невылечная хвароба нырак падкасіла гэтага моцнага, дужага чалавека, і 31 кастрычніка 1992 года Міхася Ткачова не стала...

Заўчасная смерць змагара за лепшую долю Беларусі ўскалыхнула ўсю краіну. Усе без выключэння рэспубліканскія газеты надрукавалі некралог, прысвечаны яго светлай памяці, падпісаны першымі дзяржаўнымі асобамі. Дзякуючы намаганням Станіслава Шушкевіча, для пахавання М.Ткачова было выдзелена месца на мемарыяльных Маскоўскіх могілках. На радзіме Ткачова ў г.Мсціслаўе ў яго гонар назвалі вуліцу і былі адкрытыя мемарыяльныя дошкі ў Гродне (на доме, дзе ён жыў) і ў Мсціславе (на будынку школы, якую ён скончыў).

Дзякуючы дапамозе тагачаснага рэдактара "Народнай газеты" Іосіфа Сярэдзіча, у газеце быў абвешчаны збор сродкаў на пабудову помніка М.Ткачову. На працягу года грошы былі сабраныя і без усялякай дапамогі дзяржавы на магіле М.Ткачова быў устаноўлены помнік работы вядомага беларускага скульптара Шатэрніка.

Зараз для ўшанавання памяці нашага славутага земляка кіраўніцтва БСДГ і БНФ запрашаюць мінчан і гасцей беларускай сталіцы на жалобны рэквіем, які адбудзецца 1 лістапада, а 15-ай гадзіне, каля магілы М.Ткачова.

Справа, распачатая М.Ткачовым, увасобленая ў яго кнігах і шматлікіх вучнях, не загіне, яна вечная, як вечная наша любімая Беларусь.

**Алег ТРУСАЎ.**

# Канферэнцыі "КАЛАСАВІНЫ-97"

**З традыцыйнай навуковай канферэнцыі "Каласавіны-97", якая ў мінулы панядзелак пачала сваю работу ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа ў Мінску, быў дадзены старт афіцыйным мерапрыемствам, прысвечаным 115-й гадавіне з дня нараджэння знакамітага ўраджэнца нашай Стаўбцоўшчыны, народнага паэта Беларусі Якуба Коласа.**

— Коласаў дом ужо дванаццаты раз запар збірае ў сваіх сценах прыхільнікаў і даследчыкаў творчай спадчыны нашага народнага Песняра, — зазначыла, адкрываючы канферэнцыю, дырэктар музея Зінаіда Камароўская. – І збірае з прыемнай нагоды – усе мы сюды прыйшлі, каб падзяліцца з калегамі і аднадумцамі вынікамі сваіх творчых пошукаў і даследаванняў у галіне Коласазнаўства, абмяняцца поглядамі на асвятленне той ці іншай праблемы з далёка яшчэ не да канца вывучанага творчага і жыццёвага шляху Якуба Коласа... Па словах Зінаіды Мікалаеўны, у сёлетніх "Каласавінах" наглядаецца самы большы за ўсю 12-гадовую гісторыю іх правядзення колькасны паказчык удзельнікаў, — звыш 60 чалавек падалі заяўкі на ўдзел у канферэнцыі і выказалі жаданне выступіць са сваімі дакладамі.

Паколькі лічба 60 сапраўды велікаватая для падобнага мерапрыемства, то сёлета, таксама ўпершыню, было вырашана прадаставіць удзельнікам канферэнцыі для абмену думкамі два дні – "навуковыя" "Каласавіны" працягваліся яшчэ і ўчора. Таму практычна ўсе, хто падаў заяўкі, а гэта – і масціныя літаратуразнаўцы, этнографы і фалькларысты Нацыянальнай Акадэміі Навук, прафесары і выкладчыкі вядучых ВНУ, тэхнікумаў і каледжаў краіны, супрацоўнікі Коласавага і некаторых іншых беларускіх музеяў, настаўнікі і краязнаўцы, у тым ліку і з роднай паэту Стаўбцоўшчыны, змаглі за два дні работы канферэнцыі выказацца і вынесці на разгляд іншых свой пункт гледжання на некаторыя аспекты сучаснага Коласазнаўства.Таксама ўпершыню ў сёлетніх "Каласавінах" прынялі ўдзел літаратуразнаўцы з Чэхіі і Расіі.

У рамках навуковай канферэнцыі адбылася прэзентацыя зборніка дакладаў, з якімі выступалі на "Каласавінах-96" мінулагодніх іх удзельнікі. Па выніках жа сёлетняй канферэнцыі яе арганізатары таксама мяркуюць выдаць зборнік матэрыялаў. Па ўсім відаць, на будучы год ён будзе складацца з двух частак – колькасць прадстаўленых у гэтым годзе дакладаў цалкам дазваляе гэта зрабіць.

**Сяргей ГАЛОЎКА.**

# ПАКАЛЕННЕ-2000

## І вучымся, і кахаем

**Вольга ДУБОВІК**

Студэнцкі інтэрнат... Першакурснікі з заміраннем сэрца пераступаюць яго парог. Аказваецца, гэтая звычайная шэрая будыніна з бясконцымі калідорамі, кухнямі, балконамі і дзвярыма і ёсць ваш інтэрнат. Нехта лётае з пакоя ў пакой, дзяўчаты ў паўрасшпіленых халаціках завіхаюцца на кухні, хтосьці надрываецца з гітарай... Пахне смажанай бульбай і селядцом, цыгарэтным дымам, адэкалонам і яшчэ нечым, што стала ўжо такім родным і знаёмым...

Будні, вучоба, бібліятэкі... Заўважана, што значную частку месцаў у бібліятэцы займаюць менавіта добрасумленныя першакурснікі. Надыходзячая сесія пужае іх больш за іншых.

А што ў інтэрнаце вечарам? І ў калідорах пуста, і за дзвярыма не вельмі гучна. А між іншым не бачнае воку жыццё ў інтэрнацкім мурашніку якраз зараз і ажывае. Знаёмствы, новыя сябры, агульныя святы... Учарашнія маміны дачушкі з цікаўнасцю знаёмяцца з іншаземнымі джыгітамі, лётаюць у госці і запрашаюць іх «на каву». Могуць і самі напрасіцца на вячэру. Хай гэта вас не здзіўляе — замежныя студэнты гатуюць неверагодна смачна. Дарэчы, у госці да іх дзяўчаты ходзяць звычайна цэлым пакоем. Сябраваць, дык усім разам.

Калі з іншаземцамі проста сябруюць, то на сваіх і дзяўчаты, і хлопцы пазіраюць больш уважліва, з прыцэлам. Сустракаюцца па некалькі год, выходзяць замуж, жэняцца. Людзі розныя бываюць — аптымісты, песімісты. Адзін мой знаёмы паскардзіўся: «Ну, як тут ажэнішся? Ні грошай, ні спецыяльнасці, ні кватэры». Але не ўсе такія разважлівыя, маладосць і каханне робяць сваю справу.

Мэта, напэўна, кожнага другога жыхара інтэрната — застацца ў сталіцы, з'ехаць з глухой правінцыі, пачаць новае, цікавае жыццё. Нехта лётае за мінчанамі, нехта — за мінчанкамі. Кожнаму сваё. Жыццё працягваецца...

Гэта — інтэрнат. І дзякуй яму, што ён нас пазнаёміў, падарыў сяброў, даў нам першыя жыццёвыя ўрокі.




**УВАГА!!! УВАГА!!!**

Ад незалежных ад нас прычынаў, лютаўскі № "Бел. Дайджэсту" ня выйдзе. Сакавіцкі, 50-ты № выйдзе на 12 стар. Будзем моцна старацца, каб нешта такое ў будучыні не паўтарылася...

Усім тым, хто ў мінулым годзе не адгукнуўся на нашыя просьбы фінансавае дапамогі і не адгукнецца пасьля гэтага напаміну, — <u>высылаць газэту ня будзем!...</u>

*Уладзімір Бутрамееў*

# Легендарныя продкі БЕЛАРУСАЎ

«Народная Воля»

Кожны чалавек хоча ведаць, адкуль і калі з'явіўся яго народ, як жылі далёкія продкі і хто з іх праславіўся подзвігамі і вялікімі справамі. Гісторыя беларусаў, як і іншых народаў, пачынаецца ў далёкім мінулым, і вучоныя не могуць дакладна растлумачыць, як усё было на самым пачатку. Але захаваліся легенды і паданні, якія апавядаюць пра гэта. Яны іншы раз падобныя на казкі, але, па-першае, нават у казцы ёсць нейкая кропля праўды, а па-другое, лепш мець адзінае ўяўленне, хай сабе і напалову казачнае, чым блытацца ў недакладных звестках. Таму, каб вызначыць месца беларусаў сярод іншых народаў свету, мы і звернемся да паданняў і легендаў, якіх шмат у адной з самых старажытных кніг свету — Бібліі, у летапісах, у старых хроніках.

Паводле Бібліі, Бог стварыў неба і зямлю, расліны, жывёл і першых людзей — Адама і Еву. Адама і Еву мы лічым найстаражытнейшымі продкамі ўсіх людзей, у тым ліку і беларусаў. Гэта прапрапрапродкі.

Адам і Ева жылі ў раі, але яны парушылі загад Бога, і ён выгнаў іх на зямлю. У Адама і Евы нарадзіліся два сыны — Каін і Авель. Каін быў земляробам. Авель пасвіў жывёлу. З зайздрасці Каін забіў Авеля. Так людзі зрабілі грэх — братазабойства.

Калі людзей стала шмат, яны натварылі столькі грахоў, што Бог затапіў зямлю вадой, каб знішчыць іх. Толькі аднаму чалавеку, які не грашыў, Бог загадаў пабудаваць каўчэг і ратавацца ад патопу. Звалі гэтага чалавека Ной. У каўчэг ён узяў па пары ўсіх жывёл і сем'і сваіх сыноў — Хама, Сіма і Яфета. Ад іх пайшоў пасля патопу род людскі на зямлі.



Ад Хама пайшлі егіпцяне. Самыя вядомыя з іх — фараон Хеопс, які пабудаваў найвялікшую ў свеце піраміду, і прыгажуня Неферціці. Паводле легенды, ад Хама паходзяць таксама ўсе жыхары Афрыкі і старажытныя фінікійцы, якія прыдумалі першы алфавіт. Фінікійцам быў і славуты палкаводзец Ганібал.

Ад Сіма пайшлі яўрэі, вавіланяне і арабы. Яўрэі захавалі легенды і паданні старажытных народаў і склалі Святое пісанне — Біблію. Самыя славутыя сярод іх былі цар Давід, мудры Саламон і Ісус Хрыстос, пачынальнік хрысціянскай рэлігіі. Вавіланяне праславіліся самым вялікім горадам таго часу — Вавілонам, а арабы — прарокам Мухамедам, пачынальнікам мусульманскай рэлігіі — іслама.

Ад сыноў Яфета пайшлі народы, што жывуць ад Індыі да Еўропы і размаўляюць на індаеўрапейскіх мовах. Гэта і індусы, і персы, і грэкі, і германцы, і кельты, і славяне. Сярод індусаў жыў Буда, стваральнік яшчэ адной сусветнай рэлігіі — будызму. Персы заваявалі мноства краін ад Індыі да Грэцыі. Грэкі вядомыя імёнамі вялікіх філосафаў — Сакрата, Платона, Арыстоцеля, а яшчэ больш — імем славутага паэта Гамера. Блізкія сваякі грэкаў — македонцы — на чале з Аляксандрам Македонскім заваявалі амаль увесь свет. А нашчадкі далёкіх сваякоў грэкаў — траянцы — заснавалі ў Італіі горад Рым, які пасля стаў цэнтрам сусветнай імперыі. Вялікія рымляне — палкаводзец Юлій Цэзар, аратар Цыцэрон. Ад кельтаў (іх яшчэ называюць гагамі) і германцаў паходзяць сучасныя французы, немцы, англічане, аўстрыйцы, сярод якіх таксама было шмат славутых людзей.

Аднаго з сыноў Яфета звалі Славенам. Ад яго пайшлі славяне. Таму біблейскі Яфет — наш агульнаеўрапейскі прапродак, а Славен — агульнаславянскі прапродак. Славен пасяліўся ў лясах — там, дзе цяклі рэкі Лаба (Эльба), Вісла і Дунай. Славяне былі высокага росту, стройныя, з русымі валасамі. Сярод іншых народаў яны вылучаліся сілай, вынослівасцю. Калі ў баі ў першых шэрагах стаяць славяне, то яны зломяць любога праціўніка. Змагаліся яны ў першым страі мячом і дзідай, у простых кашулях, а то і напаўголыя, без кальчуг і даспехаў. Трапіўшы ў палон, цярпліва зносілі любыя пакуты і катаванні і паміралі мужна, не просячы літасці. З гэтай прычыны славян часта ўцягвалі ў войны як саюзнікаў. Да нас дайшлі словы аднаго з іхніх ваенных правадыроў — Лаўрытаса. "Ніхто не зможа нас, пакуль ёсць на свеце вайна і мячы", — горда сказаў ён.

Але ўвогуле славяне не любілі ваяваць. Яны пасвілі на лугах свае статкі, карчавалі лес, аралі зямлю. Жылі славяне ў драўляных дамах, елі простую ежу: проса, грэчку, мёд і малако. Усе ведалі іхнюю гасціннасць: выходзячы з дому, славянін не зачыняў дзверы, а на стале пакідаў ежу — раптам завітае якінебудзь госць!

Славянскія жанчыны насілі доўгае адзенне. Яны славіліся прыгажосцю і адданасцю. Нашы продкі пакланяліся Богу маланкі і неба Перуну, Богу сонца Дажджбогу, духам лесу, рэк і балот. Памерлых спальвалі на пахавальных вогнішчах. У гонар славутых праваднікоў і герояў насыпалі курганы. Славяне любілі скакаць, спяваць песні, слухаць гуслі і паданні аб мінулых часах. Але найбольш яны любілі волю.

У некаторых славянскіх плямёнах усё ж выбіралі вярхоўную ўладу. Той, каго пасля доўгіх абмеркаванняў і парадаў старых дамаўляліся абраць правадыром, павінен быў з'явіцца перад народам босы і ў лахманах. На троне ўзвышаўся просты хлебароб, а будучы валадар станавіўся побач з ім і кляўся перад усімі берагчы веру продкаў, абараняць сірот і захоўваць справядлівасць. Пасля гэтага хлебароб саступаў яму трон, а народ прысягаў на паслушэнства. Калі ж ён парушаў клятву, яго адразу ж праганялі. Нават палонных славяне не ператваралі назаўсёды ў рабоў, як гэта рабілі іншыя, а прымушалі адрабіць колькі гадоў і адпускалі дамоў або пераконвалі заставацца жыць у іх свабоднымі і як роўныя з роўнымі. Славяне так шанавалі волю, што ім было балюча пазбаўляць яе нават сваіх ворагаў.

Такія былі легендарныя дзеці і ўнукі Славена.

На той час усе народы, якія жылі на беразе Міжземнага мора (народы найстаражытнейшага Егіпта і старажытнай Грэцыі, будучай Францыі і іншыя), уваходзілі ў Вялікую Рымскую імперыю. Рым ужо не меў моцы ўтрымліваць уладу над імі. І тады маладыя суседзі пачалі нападаць на Рымскую імперыю. Разбураліся старыя дзяржавы. Узнікалі новыя. Тут жа разбураліся новыя і ўзнікалі найноўшыя. Іншыя гінулі, не паспеўшы ўзнікнуць. Раптам аднекуль з'яўляліся незлічоныя народы. Раптам бясследна знікалі. Усе гэтыя падзеі атрымалі ў гісторыі назву "вялікае перасяленне народаў".

Жыць у такі час было вельмі цяжка. Асабліва славянам, якія ад прыроды былі спакойныя і лагодныя. Звычайна славяне не працівіліся, калі іншыя плямёны з розных бакоў прыходзілі ў іхнія ўладанні. Яны лічылі, што месца хопіць усім, зямлі ў славян было шмат. Але потым узнікалі спрэчкі і сваркі. І славяне паступова перасяляліся далей ад неспакойных суседзяў. Адноўчы славуты князь Бурывой, прапраўнук Славена, сабраў славян і павёў іх на ўсход. Там раскінуліся маланаселеныя землі з мноствам рэк, лугоў і густых лясоў. Так славяне паступова рассяляліся ад Чорнага да Балтыйскага мора. Тыя плямёны, што аселі ў лясах, па словах летапісцаў, пачалі называцца драўлянамі (ад слова "дрэва"), тыя, што на мяжы са стэпамі, — палянамі (ад слова "поле"), а тыя, што апынуліся на поўначы ад іх, — северанамі. Было шмат і іншых плямён, якія атрымалі розныя назвы.

Плямёны, што аселі на тэрыторыі Беларусі, атрымалі назвы ад сваіх старэйшын. На рацэ Сож спынілася племя, якое прывялі два браты — Радзім і Вятка. Вятка пайшоў са сваім родам на раку Ака. Радзім застаўся на Сожы. Радзімічы жылі на гарадзішчах. Га-

## У МЕНСКУ ПАНУЕ ЧОРНАЯ СІЛА...

Сталінска-бэрыяўская кліка на Беларусі, што загнездзілася ў Менску з усяго былога Савецкага Саюзу перабрала ў свае рукі ўсю ўладу ў краіне. Даслоўна ўсю ўладу... і стварыла рэжым на ўзор сталінскае дыктатуры. Такім чынам Беларусь стала выпрабавальным прастораm вяртаньня ў цёмную, крывавую нядаўнюю мінуласьць.

Сотні розных прахадзімцаў і агентаў чужое ідэялогіі і дзяржавы сыстэматычна зьнішчаюць усё беларускае: — мову, нацыянальную сымболіку, культуру, адукацыю, эканоміку, і пры гэтым набіваючы свае кішэні зрабаванымі далярамі, вывозячы іх у чужыя банкі і сховы. Але за ўсім гэтым пільна сочаць пранікальныя вочы беларускіх патрыётаў-незалежнікаў...

Скарыстаць з гэтага нарабаванага багацьця ім не давядзецца і ад правасудзьдзя і помсты яны нідзе не схаваюцца, ні ў Расеі, ні на Ўкраіне ці Каўказе, а тым больш на Захадзе. Яны самі, са свае нянавісьці да ўсяго беларускага і са свае нагласьці і хамства ўзялі на сябе непрашчальную віну.

Час працуе на карысьць незалежніцка-патрыятычных сілаў, на панаваньне праўды, свабоды, адвагі і дэмакратыі. І хоць розныя карытнікі будуць абжырацца і п'янець ад свае ўлады, за год ці некалькі гадоў ім прыйдзе канец. Тады не паўторыцца дараваньне, як было дагэтуль з рознымі сталінскімі праступнікамі, а адбудзецца па загадзе падрыхтаваных беспамылковых дакумантальных доказах страшнае пакараньне за ўсе злачыны, што творыць гэтая чарнасоценна-бальшавіцкая кліка на Беларусі.

Усе сумленныя, патрыятычныя, бясстрашныя ды незалежніцкія рухі на абшарах Беларусі павінны дакладна, старанна, усебакова і праўдзіва весьці ўлік праступстваў супраць мовы, нацыянальнае сымболікі, школьніцтва, супраць адважных патрыётаў-незалежнікаў, супраць свабоды ды наагул усяго, што тычыцца беларускасьці і беларускае ідэі. Трэба дакладна запісваць усе праявы праступстваў КГБ, міліцыі, судзьдзяў, "вертыкальшчыкаў" і прэзыдэнцкіх халуёў... Гэтыя факты-дакуманты будуць вельмі патрэбнымі...

Амнэстыі для гэтае хэўры ня будзе. Хто парушаў і парушае закон — павінен быць пакараны...

Беларусы! Рыхтуйце свой патрыятызм, розум, сілу, сваю бясстрашную адвагу і чэсьць на вялікае змаганьне за сваю шматпакутную Бацькаўшчыну-Беларусь!

Мы ганьбім хамскае зьняволеньне маладых беларускіх патрыётаў, ганьбім прасьлед і закрыцьцё незалежных беларускіх выданьняў, ганьбім насільле, хлусьню і дыктатуру...

Канец акупацыі Беларусі набліжаецца! Праўда і перамога на нашым баку!...

Жыве Беларусь!

Сусьветная служба Беларускага Збройнага Чыну.

## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Вельмі Паважаны Мікола Прускі!

Перасылаю Калядны Падарунак на нашу папулярную беларускую газэту ў дыяспары, — "Беларускі Дайджэст".

У гэтай выдатнай працы на карысьць нашае шматпакутнае Бацькаўшчыны Беларусі, няхай дапамагае Вам Усемагутны Бог...

Дарагі Мікола! Праз Вашу газэту жадаю выразіць падзяку майму сябру А. Гаткові́чу за артыкул "Беларуская вёска", які быў зьмешчаны ў "Голас Радзімы", № 46 за гэты год. У артыкуле апісваецца Лягер ДП у Ватэнштэце, Нямеччына. Хацелася-б навязаць з ім сувязь і аднавіць сяброўства. Праўдападобна пражывае ён у Англіі...

Аставайцеся з Богам!

а. М. Б. з сямёй.

*Дзякуем за ліст і ахвяру на выдавецкі фонд нашае газэты. Жадаем Вам усяго найлепшага!*

Дзень добры, Спадар Прускі!

... Вельмі добра, што зараз зьяўляецца новая плынь эміграцыі з Беларусі, яшчэ лепш было-б каб гэтыя людзі працавалі на Бацькаўшчыне, але зараз зьмяніць нешта вельмі складана. Вельмі важным у гэты цяжкі час для Беларусі, лічу падрыхтоўку для яе палітычных і бізнэсовых кадраў. Мне здаецца, што вялікую ролю ў гэтым магла-б адыграць дыяспара.... Павінна быць распрацавана праграма узаемадзеяньня вядучых колаў дыяспары, замежных арганізацыяў і прадстаўнікоў з Беларусі.

Яшчэ вельмі важным лічу пашырэньне прыватных кантактаў. Трэба больш запрашаць моладзі, каб яны маглі пажыць у вашым асяродзьдзі і пабачыць як вы мужна захавалі своеасаблівы пласт беларускай культуры. Патрэбна над гэтым працаваць. Тады пачатая Вамі і нашымі продкамі справа не загіне.

Зараз-жа мяне вельмі зьдзівіла нейкая разьяднанасьць, нейкае такое жыцьцё больш скіраванае на свае асабістыя патрэбы. Так, усё гэта неабходна. Але мяне зьдзіўляе той факт, што многія Вашыя дзеці, якім ужо каля 30-ці а то і больш гадоў,

## БЕЛАРУСКІЯ ПАТРЫЁТЫ, — Дарагія Прыхільнікі і Сябры!

Мінуў 1997 год... Наша газэта выходзіла рэгулярна, а гэта дзякуючы Вашай, дарагія чытачы, сталай фінансавай дапамозе.

Наступны год павінен быць яшчэ больш плённым, бо гэта год 80-ых Угодкаў БНР...

Ветліва і моцна просім нашых прыхільнікаў і сяброў прыядноўваць газэце новых чытачоў і ахвярадаўцаў.

Ніжэй друкуем СЬПІС людзей добрае волі, якія — адны больш, іншыя менш, — выдатна і шчыра дапамаглі нашай супольнай працы...

**Вялікае Вам Усім ДЗЯКУЙ!!!**

У 1997-ым годзе мы атрымалі наступныя ахвяраваньні на выдавецкі фонд "Беларускага Дайджэста".

Усе ахвяраваньні падаюцца ў пераліку на амэрыканскія даляры (US $).

### I. Ахвяры: $200.oo, альбо больш даляраў...

| | |
|---|---|
| Др. Мацьвей В. Смаршчок | $530.oo |
| Натальля і Анатоль Лук'янчык | $500.oo |
| БАП Царква ў Кліўлэндзе | $500.oo |
| а. Міхась Бурнос (Аўстралія) | $217.oo |
| Др. Уладзімір Набагез | $200.oo |
| Рада Б.Н.Р. | $200.oo |

### II. Ахвяры: $100.oo, ці больш даляраў...

| | |
|---|---|
| Янка Юхнавец | $180.oo |
| П. Шыркоўскі (Англія) | $175.oo |
| Паўло Гуз (Аўстралія) | $150.oo |
| Нікадэм Жызьнеўскі | $150.oo |
| Таіса, В. Міцкевіч | $150.oo |
| Мікола Сьнежко | $135.oo |
| Ванкарэм Нікіфаровіч | $110.oo |
| С. Будкевіч (Англія) | $110.oo |
| Браніслаў Даніловіч | $105.oo |
| Др. Віт. Міленцэвіч (Аўстралія) | $105.oo |
| Зоя Смаршчок (Бэльгія) | $100.oo |
| Івонка Сурвілла (Канада) | $100.oo |
| Б.Ц. Кам. у Вікторыі (Аўстралія) | $100.oo |
| Надзя Касмовіч (Нямеччына) | $100.oo |
| Кляра Кумэйша | $100.oo |
| БАЗА – Кліўлэнд | $100.oo |
| Уладзімір Ракуць | $100.oo |
| Бел. Жаночае Згурт. у Кліўлэндзе | $100.oo |
| Др. Язэп Сажыч | $100.oo |
| Лёнгіна Брылеўскі | $100.oo |
| Др. Алла Орса-Романа | $100.oo |
| Вольтэр Сітнік | $100.oo |
| Кастусь Вайцехоўскі | $100.oo |
| Віталі Кажан | $100.oo |
| Др. Марыя Дэмковіч | $100.oo |
| Мікола Вайтовіч | $100.oo |

### III. Ахвяры: $50.oo, ці больш даляраў...

| | |
|---|---|
| ЮзэфаНайдзюк | $90.oo |
| а. Міхась Страпко | $90.oo |
| Юля Андрусышын | $80.oo |
| Кацярына Вініцкі | $80.oo |
| Расьціслаў Завістовіч | $80.oo |
| Марат Клякоцкі | $70.oo |
| Міхась Белямук | $70.oo |
| Мікола Галоўка | $60.oo |
| Аўген Кабяко | $60.oo |
| Янка Азарко | $55.oo |
| М. Дзейко (Англія) | $52.oo |
| Вольга Грыцук (Канада) | $50.oo |
| Уладзімір Бельмач (Канада) | $50.oo |
| Арсень Монід (Канада) | $50.oo |
| а. Аляксандар Яноўскі (Канада) | $50.oo |
| а. Вячыслаў Ільчук | $50.oo |
| Уладз. Сідлярэвіч (Аўстралія) | $50.oo |
| Элеонора Пітушка (Канада) | $50.oo |
| Надзя Бэрт (Нямеччына) | $50.oo |
| Юрка Касьцюковіч | $50.oo |
| Др. Янка Запруднік | $50.oo |
| Др. Вітаўт Рамук | $50.oo |
| Др. Мікола Яўдосюк | $50.oo |
| Др. Міхась Жылік | $50.oo |
| Праф. Тамаш Бэрд | $50.oo |
| М. Рагалевіч | $50.oo |
| Мікола Касьцюк | $50.oo |
| Гэнрык Сенькевіч | $50.oo |
| Уладзімір Пелеса | $50.oo |
| Людвіка Беленіс | $50.oo |
| Ірэна Гайдзель | $50.oo |
| Леанід Мурог | $50.oo |
| Мікола Грэбень | $50.oo |
| Антон Шукелойц | $50.oo |
| Ірэна Сядура | $50.oo |
| Уладзімір Курылло | $50.oo |
| Барыс Русак | $50.oo |
| Леанід Літаровіч | $50.oo |
| Гас Маталыцкі | $50.oo |
| Славік Шабовіч | $50.oo |
| Багдан О. Паўк | $50.oo |
| Ванда Махнач | $50.oo |
| Уладзімір Валадкевіч | $50.oo |
| Міхась Тулейка | $50.oo |
| Вольга Канарчук | $50.oo |
| Алекс Захаркевіч | $50.oo |
| Надзя Мароз | $50.oo |
| Анна Брушкевіч | $50.oo |
| Валентына Ягоўдзік | $50.oo |
| Лявон Норык | $50.oo |
| Аўген Завістовіч | $50.oo |
| Андрэй Мацукевіч | $50.oo |
| А. Сільвановіч | $50.oo |

### IV. Ахвяры: $45.oo, альбо менш даляраў...

| | |
|---|---|
| Фёдар Паўлавец | $45.oo |
| Янка Шымчык | $45.oo |
| М. Швэдзюк (Англія) | $41.oo |
| А. Ражаніц (Англія) | $41.oo |
| М. Баяроўскі (Англія) | $41.oo |
| А. Сідаровіч (Англія) | $41.oo |
| Алег Дубяга | $40.oo |
| Уладзімір Русак | $40.oo |
| Янка Грушык | $40.oo |
| Міхась Бахар | $40.oo |
| Уладзімір Траскевіч | $40.oo |
| П. Алексы | $40.oo |
| Адольф Субота | $40.oo |
| Юрка Азарко | $40.oo |
| Адам Кітольскі | $40.oo |
| В. В. | $40.oo |
| Юрка Рэпэцкі (Канада) | $35.oo |
| Кастусь Верабей | $35.oo |
| Ніна Дудар | $35.oo |
| Т. Дамінік (Англія) | $33.oo |
| А. Якубовіч (Англія) | $33.oo |
| М. Залога (Англія) | $33.oo |
| В. Яўдакімаў (Англія) | $33.oo |
| В. Мартынчык (Англія) | $33.oo |
| Міхась Навумовіч (Францыя) | $31.oo |
| М. Кучура | $30.oo |
| Мікола Патапаў | $30.oo |
| Астап Яраховіч | $30.oo |
| Ірэна Аўдзей | $30.oo |
| Віталі Цярпіцкі | $30.oo |
| Антон Філістовіч | $30.oo |
| Пятро Нягода | $30.oo |
| Яніна Каханоўская | $30.oo |
| Васіль Багдан | $30.oo |
| Ніна Кіт | $30.oo |
| Віктар Ефрэменкоў | $30.oo |
| Мікола Абрамчык | $30.oo |
| Алекс Міраеўскі | $30.oo |
| Аляксей Кузьміч | $30.oo |
| Тамара Шэлягова | $30.oo |
| Сьвятлана Белая | $30.oo |
| Аўген Занковіч | $30.oo |
| Васіль Плескач | $30.oo |
| Міхась Калядка | $30.oo |
| Віктар Касьцюкевіч (Канада) | $30.oo |
| Пятро Нядзьведзкі | $30.oo |
| Лявон Стагановіч | $25.oo |
| А. Сончык | $25.oo |
| Я. Калбаса (Англія) | $25.oo |
| Юрка Ціпурка | $25.oo |
| Барыс Данілюк | $25.oo |
| Лявон Кавалёў | $25.oo |
| Масей Сяднёў | $25.oo |
| Ліда Катовіч | $25.oo |
| Аркадзь Сацэвіч | $25.oo |
| Якуб Рэпэцкі (Канада) | $25.oo |
| Гэлена Сысой | $25.oo |
| Еўгенія Юрша (Аўстралія) | $21.oo |
| Уладзімір Дунец | $20.oo |
| Кацярына Зубараў | $20.oo |
| Кастусь Калоша | $20.oo |
| Валя Мазуро | $20.oo |
| Алесь Міцкевіч | $20.oo |
| Ліда Драздова | $20.oo |
| Янка Каваленка | $20.oo |
| Аляксандра Воран | $20.oo |
| а. Максім Таўпека (Канада) | $20.oo |
| Сьцяпан Наумчык | $20.oo |
| Янка Навагродзкі | $20.oo |
| Л. Гутырчык | $20.oo |
| Міхась Сенько | $20.oo |
| Кацmisc Грынкевіч | $20.oo |
| St. Тамара | $20.oo |
| Валянтына Ваксэліс | $20.oo |
| Др. Раіса Жук-Грыш. (Канада) | $20.oo |
| Віктар Балтрусевіч | $20.oo |
| Вэроніка Акановіч | $15.oo |
| Язэп Бабіцкі | $15.oo |
| Т. Корбут (Аўстралія) | $14.oo |
| Станіслава Мільгуй | $10.oo |
| Вацлаў Радзюк | $10.oo |
| Юрка Васілеўскі | $10.oo |
| Аўген Груша (Аўстралія) | $7.oo |
| Алекс Грыцук (Аўстралія) | $7.oo |
| Алег Шнэк (Аўстралія) | $7.oo |
| Яшчанка (Аўстралія) | $7.oo |
| Язэп Алехін (Аўстралія) | $7.oo |
| Вольга Буран | $7.oo |
| Ігар Кавальчук | $5.oo |

Сярод іншых, найвыдатнейшымі спонсарамі "Беларускага Дайджэста" ў 1997-м годзе былі:



Др. Мацьвей В. Смаршчок



Натальля і Анатоль Лук'янчыкі

**Дарагія сябры!**

Гэты 1997 год наша выдавецтва закончыла дэфіцытам на суму $625.oo даляраў...

А мы спадзяваліся, што будзе лепш... Будзем ізноў спадзявацца, што новы 1998 год прынясе лепшыя рэзультаты і будзе больш плённым і шчасьлівым...